# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** Вільня, Біскупская вул. 12. Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Нявпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 30 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

**Год II.** 19524 **Вільня. Пятніца, 13-га студня 1922 г.** **№ 2 (27).**

## Незаслужаная кара.

Толькі цяжкай незаслужанай караю можна назваць тое палажэньне, ў якое трапляюць няшчасныя ўцекачы-беларусы з Горадзеншчыны, што масамі вяртаюцца цяпер з Расеі і спыняюцца ў Баранавічах.

Мы падаем сягоньня сухі, афіцыяльны даклад дэлегацыі Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту, пабываўшай Калядными сьвятамі ў Баранавічах—гэтым апошнім можа этапе няшчасных ахвяраў вайны на іх мучаніцкім шляху да родных загонаў, хатаў, а часта й попелішчаў.

Жах бярэ ад вялізнай сьмяротнасьці сярод уцекачоў у Баранавічах, дзе прытулішчам іх служаць у літаральным і фактычным значэньні гэтага слова нейкія бясстрэхія, халодныя „стайні“.

Папраўдзе трэба мець ня іншы як на быдла пагляд на зморaную доўгім выгнанствам жывую чалавечую масу беларусаў - сялян, каб стайняю ахрысьціць іх этапнае прытулішча на Бацькаўшчыне, каб з пугаю ў руках камандаваць людзьмі, якія вінаваты толькі ў тым, што няшчасьця іх немагчыма выказаць чалавечаю моваю.

З неспакойным сэрцам едуць у свой родны край уцекачы, а праўдзівей выгнанцы. Бо ня трэба запамінаць, што шмат каго з іх, калі ня ўсіх чыста, сагнала з родных гнездаў казацкая нагайка царскае Расеі.

І што-ж? Вяртаючыся ў свой родны бок, што яны бачаць? Яны пераконваюцца, што бізунны спосаб трыманьня парадку не памёр яшчэ разам з царскаю Расеяй. Розьніца малая, што бізун заменены пугаю.

Дзіўныя рэчы дзеюцца ў культурным XX сталецьці па Нараджэньні Расьпятага на крыжы.

У чым вінаваты найняшчасьнейшы элемент нашага расьпятага народу—гэтыя праваслаўныя беларусы-ўцекачы, што даяжджаюць з галоднае цяпер, адзічэлае Расеі аж да Баранавіч і там адбываюць незаслужаную нічым кару, спыняючыся пры ўсялякай пагодзе ў бясстрэхіх стайнях, каб, пасьля марозных ночаў, не далічыцца шмат каго спаміж сябе ды павялічыць гэтым работу канцэлярскіх пісальнікаў „картаў згону?“

За што мусяць пакутаваць уцекачы?

Ці за тое толькі, што яны — нявінныя зусім ахвяры жахоўнай вайны?

Ці за тое, што ў Расеі пануе, ня імі выкліканы, бальшавізм?

Ці проста за тое толькі, што іх вельмі шмат, а надта мала тых, хто, хаця-бы з простага пачуцьця гуманнасьці, павінен паруліцца аб тым, каб яны, як нікчэмныя мухі, не паміралі ад маразоў ды заразных хваробаў?

У гэту страшэнную справу павінна зараз-жа ўмяшацца ўлада, якая адна можа борзда і радыкальна палепшыць, як самыя парадкі ўцекачоўскага этапу ў Баранавічах, так і далейшы лёс вялізнае масы выгнаных Расеяй грамадзян нашае, як быццам праклятае Богам, Беларускае Зямлі.

Цэлы культурны сьвет не павінен адхіліцца ў бок ад гора тых, хто ня змог, бо ня меў часу, збудаваць сабе ўласную страху над галавою і нясе ў нашы культурныя часы чалавечыя ахвяры ненажорлівай сьмерці ў бясстрэхіх этапных стайнях.

Тысячы, дзесяткі тысячаў людзей нічым не заслужылі таго марнага ўцекачоўскага лёсу, ў якім яны апынуліся і чыя-ж віна ў тым, што лёсам гэтым засуджаны яны на нейкую, дзікую ў наш век, незаслужаную кару?

Кожны адкажа: вінавата вайна!

Але ад гэтага няшчасным не лягчэй, ад гэтага нічога ў іх палажэньні ня зьменіцца.

І гэта таксама ясна, як тое, што калі адыйшла на задні плян справядлівасьць, дык хіба-ж не памёрла яшчэ ў душах людзей літасьць да няшчасьця нічым нявіннага бліжняга свайго, не адсохла яшчэ рука, якая можа даць ратунак масавым ахвярам вайны, голаду, холаду, ўцекачоўства—гэтае страшнае, нічым незаслужанае, кары.

---





## Страшэнны лёс уцекачоў.

**(Даклад дэлегацыі ад Беларускага Нацыян. Камітэту ў Баранавічы ў справе абсьледаваньня палажэньня ўцекачоў).**

Баранавічы зьяўляюцца адным з галоўных цэнтраў па рээвакуацыі ўцекачоў, што вяртаюцца з Расеі ў Польшчу.

### Колькасьць.

Ад часу пачатку працы, г. зн. з сакавіка (марца) м-ца 1921 году праз Баранавічы, як этапны пункт, прайшло каля 350—400 тысячаў народу. У момэнт нашага пабыту там знаходзілася (25—26 сьнежня) каля 4 тысяч людзей.

Выпадак гэты лічыцца выключным дзеля таго, што заўсёды набіралася 10—15 тысячаў, бывалі навет здарэньні, калі зьбіралася 25—30 тысячаў.

### Нацыянальнасьць.

Усе ўцекачы, якія прахоцзяць праз Баранавічы можна сказаць наагул беларусы—праваслаўныя—60—80% якіх прыходзіцца на Горадзеншчыну.

Ня гледзячы на тое, што ўцекачы пражылі каля 6 гадоў у Расеі, ўсе яны добра захавалі родную мову і гавораць выключна пабеларуску.

### Соцыяльны стан.

З боку соцыяльнага стану большасьць з іх сяляне хлебаробы, пакінуўшыя сваю гаспадарку і родную зямліцу падчас нямецкае окупацыі. Інтэлігэнцыі дужа мала, калі хто пападаецца, дык выключна нацыянальнасьці жыдоўскай. Аб'ясьняецца гэта тым, што інтэлігэнцыя наагул пастаралася выехаць раней пры другіх варунках. Цяпер-жа бальшавікі маюць тэндэнцыю не выпушчаць яе і адтрымаць дазвол на выезд з Расеі можна толькі з вялікім трудом.

### Стан матар'яльны.

З боку матар'яльнага няможна казаць напэўна, каб яны ўсе былі бедныя (г. зн. ня мелі-б нічога), агулам стан матар'яльны іх залежыць ад таго, з якіх губэрняў Расеі яны вяртаюцца. У сучасны момэнт ішлі эшалоны з Сыбіру, сярод якіх можна налічыць 50—60% бедных.

### Бок псыхолёгічны.

З боку псыхолёгічнага, ўцякач—гэта чалавек з абсолютна забітым інтэлектам. Страчана ўсялякая ініцыятыва і воля (нярэдкі выпадкі сумашэдшых—вар'ятаў) і наагул скарэй падобны да нейкага быўшага чалавека.

### Стан санітарны і сьмяротнасьць.

Санітарны стан усіх уцекачоў не падаецца да апісаньня. Хваробы заразныя як: тыфы ўсіх трох разрадаў, цынга, малярыя, крываўка знаходзяць сабе якраз падхадячы грунт і пашыраюцца. Нярэдкі выпадкі сьмерці і ад агульнага схудзеньня.

Сьмяротнасьць настолькі колёсальна, што да яе навет пачынаюць прызвычайвацца. Гаворачы агулам, з усяго ліку ўцекачоў, прапушчаных у Баранавічах, памёрла каля 3—4 тысячаў; у час маразоў на месцы ўжо ў Баранавічах памірала штодня 200—300 чалавек. Бывалі выпадкі, калі замярзалі цэлыя вагоны за адну ноч. З 26 на 27 сьнежня ў шпіталі памёрла каля 40 людзей.

Прычыны гэткай вялікай сьмяротнасьці, як паказана вышэй, залежаць ад дрэннага санітарнага палажэньня. Праўда, можа хваробы былі вывезены з Расеі, але-ж, пры такім дрэнным санітарным стане людзям з імі бароцца вельмі трудна.

Ў Расеі часта бывае, што сем'і, у якіх зьяўляецца хворы, хаваюць яго, баючыся, каб не забралі, і той памірае і труп яго, лежачы тры чатыры дні, заражае ўсіх. Выміраюць навет цэлыя сем'і. Больш усяго сьмерцяў прыходзіцца на долю дзяцей ад аднаго да 15 гадоў і людзей ад 50—80 гадоў, у якіх менш сільны арганізм.

### Што зроблена ўладаю.

У справе санітарнай, агулам навет, уладаю зроблена дужа мала.

Аб'ясняецца гэта тым, што быццам не спадзяваліся мець справу з гэтакім лікам людзей, прыгатавана было ўсё толькі на 8, максімум 12, тысяч людзей. Але-ж калі ўбачыць тыя стадолы, як іх празываюць офіцыяльна „стайні“, якія нішто іншае, як муры бяз вокнаў, бяз стрэхаў, бяз печаў, у якіх прымаліся ўцекачы навет падчас 20°/, маразоў. Калі прыняць пад увагу, што падчас 7-м месячнай працы, навет не праведзена вада і сьвятло, (чаго і цяпер няма). Калі быў абстаўлены толькі адзін шпіталь на 200—300 ложкаў, дык можна адкрыта сказаць, што навет і 5 тысячаў бежанцаў маглі-б спакойна паміраць, не адтрымаўшы патрэбнай санітарнай помачы.

### N. N. K.

Усёй санітарнай справай кіруець арганізацыя N. N. K., якая агарадзіла толькі дротам абшар у некалькі дзесяцін, дзе і трымаюць уцекачоў, калі не хапаець месца ў стайнях, якая мае шпіталь на 200—300 асоб—уцекачоў, заўсёды з сярэднім лікам 5—10 тысячаў,—якая маець лазьні, пасьля якіх выпушчаныя на холад людзі мруць, як мухі і, нарэшце, якая займаецца хаваньнем трупаў.

Спачатку хавалі ў трунах, цяпер зроблены асобныя трупярні—даўгія палаткі з брэзэнту, ў якіх накідываліся гэтыя трупы і, набраўшы патрэбны, лік адвозіліся й закопаваліся ў агульнай яме. Бывалі выпадкі, калі трупярні запаўняліся грудаю голых цел.

Трупярні гэтыя знаходзяцца ў 30—40 кроках ад самых стайняў; трупярня маець у даўжыню 150 крокаў, у шырыню 40—60, у вышыню паўтары сажні. Бывалі часы, калі трупярні напаўняліся трупамі (расказ баранавіцкага сьвяшчэньніка а. Паўла, які правадзіў памёршых уцекачоў па хрысьціянскаму абраду на той сьвет).

Калі трупаў зьбіралася шмат, дык тамашняя ўлада прымушала ўцекачоў зносіць трупы ў трупярню і навет закопаваць у зямлю.

Праўда, робяцца прышчэпы розных

хваробаў, але-ж хваробы ідуць ужо здалёку.

Робячы прышчэпы розных хваробаў, мала зварочваюць увагі на самых разнасіцеляў гэтых заразаў. Уцекачы так сьціснуты, што вошы ня толькі разводзяцца, але-ж няма месца, дзе іх ня было-б. Перадаюць, што людзі, якія вярнуліся з Расеі, саўсім здаровымі, заражаліся ў Баранавічах і навет паміралі.

Дэзынфэкцыя адзежы, праўда, робіцца, але-ж дужа нерэгулярна.

Уцекачы адтрымліваюць каля 1 хунта чорнага хлеба ў дзень і гарачую страву (зупу, ці проста воду з крупамі), тлустасьцяў ня прыкмечана. Абстаўлена адна кухня (гэта на 30.000); уцекачом прыходзілася часамі стаяць у чарзе 8—12 гадзін ад 6 раніцы да 5—6 веч.

Усім памёршым офіцыяльна—гэта значыць у шпіталі на вачох кіраўніцтва вядуцца асобныя дакумэнты, *„карты згону“* і набіраюцца іх дэлыя груды—тысячы „картаў згону“ з гэтага сьвету беларускай народнасьці. Досіць характарныя цыфры, паказуючыя сьмяротнасьць агулам. З эшалону ўцекачоў 1.300 асоб, прыбыўшых з Саратава ў Баранавічы, засталося жывымі толькі 512 чалавек.

У момэнт нашага пабыту стайні пачалі рэмантавацца, гэта ўсяго толькі 24 сьнежня. Насьцілалі стрэху, якой ня было і ставілі печы. Пры гэтым прымушаны працаваць самі ўцекачы пад надзорам чалавека з пугай.

Агульнае кіраўніцтва і тэхнічная работа па рээвакуацыі ўцекачоў належыць да асобнага органу „Komitet opieki jeców, uciekaczy i robotników“, гэтак званы I. U. R. Бежанцы падвозяцца бальшавікамі да Стаўбцоў, дзе яны ў літаральным сэнсе гэтага слова выкідаюцца за дэмаркацыйную лінію (частыя здарэньні выкіданьня ўжо трупаў). Там яны выбіраюцца ўжо польскай уладай. Пры гэтым вядзецца ўсё гэтае страшэнна нерэгулярна. Уцекачоў ня ўсьпяваюць забіраць, а з Расеі падвозяцца ўсё новыя эшалоны. Робіцца вялікі натоўп народу. Пад адкрытым небам, пры ўсякай пагодзе, адданыя самім сабе, ўцекачы чакаюць, пакуль іх не забяруць. Паміраюць страшэнна, асабліва ў маразы, і трупы, нікім не забраныя, застаюцца на голай зямлі.

Ад Стаўбцоў польскай уладай уцекачы напраўляюцца ў Баранавічы, дзе іх чакае нялепшая судзьбіна. Там яны пераходзяць у веданьне „Jura“. Адразу кожны ўцякач мусіць зарэестравацца і даць на праездку ўсе дакумэнты. Там ён адтрымлівае картку на права прабыцьця у «stajniach» і адтрымлівае карткі на лазьню і адтрыманьне сьнеданьня, а таксама на права сьледаваньня далей ужо ў родную краіну.

Фактычна ўцекачоў трымаюць у Баранавічах тыдзень, а то і болей; нярэдкі выпадкі, (асабліва калі зьбіраецца вялікі лік), што ўцекачы бадзяюцца па 2—3 тыдні. У самых станцыях дагляду за ўцекачамі няма ніякага, калі ня лічыць аднаго з гэтакіх даглядчыкаў (нам удалося яго бачыць і разгаварававаць), які з пугай у руках кіраваў уцекачамі каля рэтырады; агулам пуга, як кажуць уцекачы, зьяўляецца сымболем парадку.

Пасьля ўсіх гэтых фармальнасьцяў, падаюцца вагоны з надпісамі месца прыбыцьця. Уцекачы разьмяшчаюцца, гледзячы хто-куды едзе, іх адвозяць і ўжо яны не падлягаюць тады ніякай апецы.

Апрача „Jura“ кожны ўцякач мусіць прайсьці яшчэ праз асобны паліцэйскі орган, які займаецца адсылкай назад „непажаданага элемэнту“. Большасьць уцекачоў усьпявае ўжо збавіцца ад усялякіх компромэтуючых дакумэнтаў. Бываюць выпадкі, калі знаходзіцца прычына ня прыняць. Гэтакія адсылаюцца назад. Уцекачы больш усяго баяцца гэтага, не таму, што ў Расеі дрэнна, не, з іх расказаў відаць, што яны з вялікай прыемнасьцю паехалі-б назад, а таму што і бальшавікі не заўсёды гэткіх прыймаюць, і яны, пакінутыя ўсімі, адданы на сьмерць.

**A. K. P. D.**

Апрача гэтых інстытуцыяў урадовых у Баранавічах маема яшчэ і іншыя. Працуе: Amerykański Komitet Pomocy Dzieciom; гэтая інстытуцыя працуе дужа інтэнсыўна.

**А. Ч. Крыж.**

Быў Амэрыканскі Чырвоны Крыж, якога цяпер няма.

**Biały Krzyż.**

Ёсьць Польскі „Biały Krzyż“, які нічагусенькі абсолютна ня робіць.

**Y. M. C. A.**

Ёсьць Амэрыканская арганізацыя Y. M. C. A., якая ставіць спэктаклі і гэтым толькі разводзіць заразу.

**Мэтодыстыя.**

Ёсьць „Metodyści“, якія таксама мала сябе выяўляюць; працуець таксама і Польскі «Czerwony Krzyż».

---

Агулам казаць інстытуцыяў хопіць, каб менш-больш памагчы ўцекачом. Аднак, мала што выходзіць і судзьбіна іх не мяняецца. Адразу кідаецца ў вочы,—а гэта перадаюць і асобы, больш компэтэнтныя, якія падоўгу прыглядаліся да жыцьця ўцекачоў,—поўная адсутнасьць добрай, любячай гаспадарскай рукі. Няма агульнага даглядчыка. Спэктаклі ёсьць, а вады і сьвету няма, ёсьць інстытуцыі санітарныя, а сьмяротнасьць павялічваецца.

Прыглядаючыся глыбей, можна ўбачыць вялікую «халатнасьць» і навет якбы проста „злы умысл“ і нежаданьне працаваць.

У Баранавічах таксама пражывае і рускі консуль, прадстаўнік Варшаўскага Расейскага Камітэту п. Фірсаў, якому мы абавязаны большасьцю адтрыманых праз яго інформацыяў і які мае абавязак апекавацца і клапаціцца аб усіх нелегальных эмігрантах з Расеі.

Будучы ў Баранавічах 25, 26 і 27 сьнежня, не маглі ўбачыць ніводнага начальніка (па рассказах людзей, што там жывуць, начальства весялілася).

# Маленькі фэльетон.

---

## Што выгадней?

Безграшоўе. У хаце холадна. Трэба напісаць у газэту. Але што пісаць?

Віхар розных тэмаў круціўся ўжо з гадзіну ў маёй галаве, але ніводная не падходзіла, як той казаў, да сучаснага момэнту.

„Дай, пагляджу, — думаю сабе, — ў якую-нібудзь беларускую аднаднёўку, можа тамака што знойдзецца якраз да рэчы.

Ага! Во матар'ял. Вось дык навіны!

Аказваецца, што амаль ня кожны беларускі дзеяч, калі не мільянэр, дык хоць-бы проста хітры, нябедны чалавечак.

Бо роднаю маёю моваю чорнымі літарамі на белай паперы надрукована ў аднаднёўках:

Ікс палажыў сябе ў кішэнь мільён марак ды яшчэ якіх...

Ігрэк пазычыў аж чатыры мільёны й нікому справаздачы ня даў...

Зэт... А! гэты самы няспрытны— толькі ні то 5, ні то 10 тысячаў нямецкіх марак аднекуль дастаў...

„Выдатны й вядомы дзеяч“ дык той адразу амаль ня ўсю касу нябожчыцы Вайсковае Камісіі ў кішані сваім затрымаў, аж да нейкага суду справа даехала...

Ну, і матар'ял!—зжахнуўся я, перачытаўшы аднаднёўкі розных, як той кажа масьцяў і гатункаў.

Тут, каб і выдумаваў, дык спрытней ня выдумаеш.

Выбілі конкурэнты пяро з маіх рук.
Перахапілі найцікавейшыя тэмы.
Прапаў я, здавілася.
Аж... „Бог не бяз літасьці...“
Якраз у гэты вечар нехта з грамадзян Litwy Środkowej—Богу душу аддаў.

Выратаваў мяне стук у дзьверы мае халоднае кватэры.

„Хто?“ — пытаюся. „Проша пана! В вашым тут дому мешка чловек, цо сьпева“ — пачуў я ў адказ пасьродковалітоўску.

Хаця праўдзівае літоўскае мовы я, нажаль, ня знаю, але й гэтае сьродковальтоўскае фразы ніяк не зразумеў.

Да таго-ж яшчэ, праўда, ўчора ўвечары я сам сьпяваў даволі моцна беларускія песьні і навет „Адвеку мы спалі“ прапяяў.

„Бяда,—думаю,—паліцыя!“

Ажно—дзе там!

Няшчасны аўдавелы, ці асірацелы (ці яшчэ як там) сьродковальтовец шукаў сьпевака, што... хаўтурныя песьні над нябожчыкамі сьпявае.

Як жыву, дык ня чуў яшчэ, што ёсьць гэткая профэсія сярод нашага меставога пролетарыяту.

Эўрыка! Адрэс ужо мой людзі- ве даюць — займуся, думаю, я гэтым сьпявацтвам...

— Сягоньня я нездароў,—адказаў я стукаўшаму ў дзьверы чалавеку,—дохтар выходзіць забараніў.

А сам адыйшоў ад дзьвярэй ды думаю сабе: Пачакайце, сяброчкі, такія ды гэткія вы, мільянэры!

На якога чорта я маю пісаць гэтак недаходныя фэльетоны!

Заўтра-жа куплю сабе кантычку ды пашукаю там патрэбных мне дзеля новае профэсіі хаўтурных сьпеваў.

Сьпяваць па нябожчыках шмат выгадней, чымся пісаць у газэты.

Звон на суседніх могілках штодня навет па некалькі разоў выбівае сваё сумнае: „дзын-дзылін, дзын-дзылін, дзын-дзылін“...

Будзе за што і хлеба, гэтак ня таннага цяпер, купіць і хату палюдзку апаліць і ад абавязковага, паводле дасюлешняй профэсіі, чытаньня беларускіх аднадзёвак ухіліцца.

**Звончык.**

---

**Ўлад. Д. Гутоўскі.**

# СУРДУТ І СЯРМЯГА

Драматычны абраз з песьнямі і танцамі ў 3 актах.

(*Пераклад з польскага*).

**Сьпевы ў перакладзе Наталкі Арсеньневай.**

(Глядзі № 1).

**Пранцішак**. Не пазнаю... бо... бо вас ніколі ня знаў!

**Янка**. Божа моцны! І ты можаш так сказаць? Адно, прыглядзься. Я не магу паверыць, каб ты нас не пазнаў, бо я цябе, штораз больш пазнаю.

**Карусь** (іронічна). Нешта кароткую маеш памяць, мабыць засмакаваліся табе салёны; я цяпер разумею, што значылі гэтыя нявыразныя адказы, калі мы гутарылі аб будучыні.

**Магда**. Пранук, і ты можаш гэта сьцярпець? Глянь-жа на бацьку!

**Янка**. Пранук, апомніся! Я цябе прашу, ня труці маіх старых гадоў!

**Пранцішак** (мацуючыся з сабой). Але... Чаго вы ад мяне хочаце? Я вас ня знаю, а, знача, і прызнацца да вас не магу!

**Янка**. Дык гэта праўда, што ён нас стыдаецца! О, Мацейка, братка мой! Я табе ня верыў, ажно сам праканаўся.

**Карусь** (з вялікай іроніяй). Ідзі і пацалуй ім рукі, бо ня можаш далей сьпірацца!

**Янка**. Вось на тое я крывава працаваў, каб цябе пасылаць у школу, каб ты, апрануўшы сурдут, стыдаўся, што бацькі ў сярмягах ходзяць. О, каб я лепш гэтага дня не дачакаў. А ён быў мая слава і праз яго я пачаў пагарджаць маімі братамі. Справядліва Бог мяне карае. Пойдзем адсюль, няхай даўжэй наша нага тут не астаецца.

**Магда**. Пранучок, памятай, што Бог глядзіць на цябе.

**Карусь** (злосна). Ну што-ж? Пазволіш ім пайсьці?

**Адварды**. Га, га, га! Дай яму спакой, ён ня можа запэцкаць сваіх далікатных рук.

**Карусь** (як вышэй). Чорны сурдут запэцкаў-бы аб мужыцкую сярмягу.

**Янка**. Пойдзем хутчэй, бо ўжо ня маем дзіцяці. Каб я гэта прачуў ня пусьціў-бы яго ад сахі. Меў-бы чорныя, спрацаваныя рукі, насіў-бы зрэбную сарочку і простую сярмягу, але душа яго была-б чыстая і прывязаная да бацькоў і да вёскі. Сягоньня ён пан, у пакоях можа сядзець з панамі за адным сталом, здабыў, нібыто, навуку, але ня мае таго, што для сялян, для нас мужыкоў, ёсьць найдаражэйшае, ня мае супакою, ня мае чыстага сумленьня, ня мае волі. Калі ўсе такія, што жывуць у вялікіх пакоях, дык нічога дзіўнага, што нас выкідаюць з нашых дамоў, адбіраюць бацькаўскую зямлю, а мы на ўсё згаджаемся! (становіцца на калені). О, Божа, даруй мне, што пашоў проці Тваей волі, што хацеў навет пакінуць сваю вёску, а яго не навучыў кахаць і шанаваць сівыя валасы бацькоў! (Ўстае). А, хай Бог табе гэтага не памятае! (Выходзяць, Пранцішак хоча бегчы, але, глянуўшы на Каруся, затрымоўваецца).

**Карусь**. Га, га, га! Што за дзіўная сцэна! Дзякаваць Богу, што скончылася нетрагічна. Усё выйшла на верх. Віншую, віншую, арыстократа з мужычай хаты, імкнуўшага да нашай кампаніі.

**Пранцішак** (раптоўна). Перастань, бо запомню аб тваім істнаваньні! (жэст да дзьвярэй).

**Карусь** (зьбіраючыся да выхаду). Будзь спакойны, больш мая нага тут ня будзе. — Бывай! Хадзем, Адварды! Бывай здароў, пане Пыхала.

**Адварды** (адходячы). Пыхала. (Са сьмехам выходзяць нізка кланяючыся).

### Зьява VII.

**Пранцішак** пасьля **Якуб.**

**Пранцішак**. (Стаіць хвіліну няпрытомны, пасьля): А, Божа, што гэта было? Няма пры мне нікога. Ці гэта ўсё праўда, ці гэта сон? Мае бацькі... Карусь... Не магу зразумець... (Звоніць, кліча). Якуб... ці чуеш, што цябе клічу?

**Якуб** (хутка ўбягае). Што прыкажаце?

**Пранцішак** (у бок). Пытаць яго не магу. (Голасна) Дай мне шклянку вады!

**Якуб** (налівае і падае). Калі ласка, панок.

**Пранцішак** (хутка п'е і ставіць шклянку на стале). Якуб!

**Якуб**. Я!

**Пранцішак**. Не адыходзь ад мяне.

**Якуб**. Добра!

**Пранцішак** (у бок). Як тут даведацца праўды? (голасна) Якуб!

**Якуб**. Слухаю!

**Пранцішак** (заўсёды неспакойна). Каторая гадзіна?

**Якуб**. Палова чацьвёртай!

**Пранцішак**. Палова чацьвёртай?

**Якуб**. Так, пане!

**Пранцішак** (як вышэй). Гдзе паны?

**Якуб**. Толькі што пашлі.

**Пранцішак**. А... тыя...

**Якуб**. Таксама пашлі.

**Пранцішак** (думаючы). Пашлі.—Дык гэта праўда... значыць яны тут былі... бацька... матка... Алеся... прыехалі да мяне... а я? я іх ня прыняў... я іх выракся.. бо яны ў вясковых вопратках... Не... гэта ня можа быць... А Карусь, Адварды... іх насьмешкі, іх іронічныя погляды... О, Божа, значыць гэта ўсё праўда, значыць так прыняў сваіх бацькоў. Ня сьмею вачэй падняць, бо здаецца мне, што кожны з іх вычытае, што бацькоў стыдаюся.

**Якуб** (неспакойна). На міласьць Бога, што вам такое?

**Пранцішак** (як-бы збудзіўшыся). Хто тут?

**Якуб**. Гэта я, Якуб.

**Пранцішак**. Ты, Якубе, ты пры мне і ты ад мяне не ўцякаеш? О, які ты добры. Я цябе ніколі не забуду. Карусь, Адварды асьмяялі мяне і пайшлі, каб ужо не вярнуцца, бо я заслужыў гэта! А яны, што гэтулькі міль прабеглі... вяртаюцца з раненымі сэрцамі, а вінавайца гэтай раны я... (Ўваходзіць Зыгмунт).

*Аўторак,* 10 *студня.*

— Нямецкія дэлегаты будуць запрошаны на конфэрэнцыю ў Каннах пасьля згоды ў духу Вярх. Рады па пытаньню аб контрыбуцыі.

— Ходзяць чуткі, што Англія гатова адмовіцца на карысьць Нямеччыны ад 450 мільёнаў золатам, не вымагаючы ад Францыі адмовы ад яе прэтэнсіяў.

— У Каннах апрацованы варункі, на якіх бальшавікі могуць быць дапушчаны на спэцыяльную конфэрэнцыю вялікіх дзяржаваў. Варункі гэтыя, калі будуць прыняты бальшавікамі, дык змусяць іх адмовіцца ад аснаўных пунктаў свае праграмы.

— Ірляндзкі парлямэнт—Dail Eirean—прыняў англа-ірляндзкі дагавор 64 галасамі проці 54. Дэ-Валера выходзіць у адстаўку.

— Перадаюць, што Радэк меў гутарку з нямецкім канцлерам аб цесных гандлёвых і палітычных зносінах Расеі з Нямеччынай і аб адбудове Расеі.

— Лёйд-Джордж і Брыян пачалі перагаворы аб англа-францускай згодзе, якая гарантавала-б эўропэйскі мір і падмогу Англіі ў выпадку нападу Нямеччыны на Францыю.

— Італьянскі ўрад праз расейскую эканамічную дэлегацыю паслаў Леніну запрашэньне на фінанса-эканамічную конфэрэнцыю ў Гэнуі.

— Вашынгтонская конфэрэнцыя большасьцю галасоў выказалася проці ўдушлівых газаў на вайне.

— Маскоўская рада устанавіла плату за электрычнасьць, воду і газ у залатых рублёх па курсу фінансавага камісарыяту

— Швэдзкі камітэт падмогі Расеі зрабіў прапазыцыю аб асыгнаваньні яшчэ аднаго мільёна кронаў на падмогу галодным, апрача асыгнованага ўжо паўмільёна.

*Серада,* 11 *студня.*

— Бальшавікі прасьледавалі аддзел карэльскіх паўстанцаў за фінляндзкую граніцу на 40 вёрст у глыбіню фінляндзкай тэрыторыі, да Міргрыярві. Фінская пагранічная варта адыйшла пасьля нядоўгага бою.

— Фінляндзкі ўрад заявіў у Маскве протэст проці заняцьця бальшавікамі Міргрыярві.

— Бальшавікі афіцыяльна паведамляюць: Нашыя войскі занялі Порсо—возера. Праціўнік адыйшоў да граніцы Фінляндыі. У аддзеле з 500 бандытаў было толькі 60 карэльцаў; павадырствавалі фінляндзкія афіцэры. У іншых кірунках банды паўстанцаў пасьпешна адходзяць да граніцаў Фінляндыі. На паўночнай дзялянцы мы занялі Канасьліскую.

— Прапазыцыя аб закліканьні нямецкіх дэлегатаў у Канны выходзіць ад Англіі.

— Нямецкая рада міністраў пастанавіла, каб старшынёю нямецкай дэлегацыі ў Каннах быў Ратэнау. У склад дэлегацыі ўвайдуць: Шрэдэр, Гірш, Бэргман, Фішэр і Мартын.

— У Канны прыбыў старшыня Камісіі па контрыбуцыі Дюбуа. Цяпер уся камісія знаходзіцца ў Каннах.

— Офіцыяльна паведамляецца аб падпісаньні англа-ірляндзкага дагавору. Дэ-Валеру заменіць Грыфіц.

— Ваенныя дэлегаты на зьезьдзе саветаў пастанавілі мобілізаваць камуністых, якія радзіліся ў 1899—1900 г.г., каб узмацніць чырвоную армію камуністычнымі элемэнтамі.

— Польская рада міністраў прыняла, паміж іншым, проект зьнішчэньня ўсіх абмежаваньняў жыдоў у быўш. расейскім „заборы“.

*Чацьвер,* 12 *студня.*

— Ленін прыняў прапазыцыю быць на конфэрэнцыі ў Каннах.

— Брыян перад конфэрэнцыяй у Каннах падняў пытаньне аб ствараньні контынэнтальнае вуніі дзяржаваў Сярэдняй Эўропы.

— У склад консорцыюму дзеля адбудовы Эўропы ўвайдуць: Англія, Францыя, Бэльгія, Нямеччына, Італія й Японія.

— „Temps“ запэўняе, што францускія экспэрты пераканалі ангельскіх у шмат большай платаздольнасьці Нямеччыны, чымся прынята думаць; дзеля гэтага плата павялічана з 500 да 700 мільёнаў марак у 1922 г.

— Чычэрын выслаў Вярхоўнай Радзе цаведамленьне, што савецкі ўрад з задаваленьнем прыняў запрашэньне на конфэрэнцыю ў Гэнуі.

— У польскім сойме разглядаўся законапроект аб ваеннай службе, Міравы контынгэнт арміі проектуецца ў разьмеры 250 тыс. Срок службы—2 гады. Прызыўны век 21 год.

— Літоўскі ўрад падаў у Лігу Народаў рашучую ноту протэсту проці віленскіх выбараў. У ноце сказана, што выбары прайшлі ў ненормальных варунках, бо засталіся войскі і адміністрацыя, а аддаліўся толькі гэн. Жэлігоўскі; ў адносінах да літоўцаў прыстасоўваліся ваенныя законы, а да іх прэсы—рэпрэсіі. Літоўскі ўрад кажа, што ня прызнае падобнага Сойму ні ў якім выпадку. Нота падпісапа Клімасам.

— З Коўна перадаюць, што прадстаўніком Літвы ў Радзе Лігі Народаў назначаны дырэктар д-ту мін. загр. справаў Балуціс, які прадставіць Радзе Лігі пазыцыю свайго ўраду ў віленскім пытаньні.

— Дэлегатам Польшчы на бягучую сэсію Лігі Народаў назначаны І. Шэбэко.

— У аўторак адчынілася ў Жэнэве 16-я сэсія Рады Лігі Народаў. На чарзе пытаньне аб Гданску і саарскім басэйне. У Гданск будзе назначаны камісар.

— Фінляндзкі прадстаўнік у Маскве раіць свайму ўраду перарваць дыплёматычныя зносіны з бальшавікамі.

— Консэрватыўныя фінляндзкія групы патрэбавалі адстаўкі міністра ўнутраных справаў Рытавуоры за прыказ аб выдаленьні з Фінляндыі карэльскага ўраду паўстанцаў. Прыказ, мусі, будзе адменены.

— Процісавецкі рух у Сыбіры мацнее. Саветы пацярпелі пабой каля Якуцку. Белагвардзейцы занялі Мікалаеўск і пануюць на Амуры.

— Паміж войскам рэспублікі Далёкага Усходу і Прыморскай арміяй памацнелі баі. У Чыце і Срэценску мобілізованы ўсе камуністыя дзеля фронтавое службы.

— Карэльскім паўстанцам удалося на бальшавіцкіх тылох перарэзаць Мурманскую чугунку.

# Жыцьцё провінцыі.

## „Варонаў на сьвеце многа ды няма каму страляць...“

**М-ка ІЛЬЛЯ, Вялейскага пав.**

Так прыгожа дэклямаваў і прыпяваў на беларускім спэктаклі тутэйшы беларус п. Піліповіч, які мусіць забыўся пра тое, над чым сам сьмеяўся на спэктаклі і з „моднага шляхцюка“ захацеў зрабіцца запраўды шляхцюком. Цяпер ён вучыцелем у тутэйшай польскай школе і вучыць дзяцей - беларусаў чужой грамаце, а яго сябра, які граміў на спэктаклі ворагаў беларушчыны, кажучы „Чаго вам хочацца, панове?!—таксама наняўся ў польскія вучыцялі і беларусаў вучыць тэй культуры, якой сам ня знаець.

Першы працуець у м. Ільля, а другі ў дварэ Асьцюковічы; ёсьць чуткі, што і ў другіх вёсках, зусім праваслаўных, беларускіх, адчыняць польскія школы.

Гэтыя школы ня толькі польскія, але ці ня будуць яны і галоўным чынам каталіцкія, бо туды ходзіць ксёндз, а праваслаўны сьвяшчэньнік яшчэ не запрошаны і няведама, ці адтрымае пазваленьне вучыць дзяцей—праваслаўных беларусаў Закону Божаму. Як мы даведаліся, дык ён прасіў у Вялейскага школьнага інспэктара пазваленьня вучыць дзяцей у школах З. Б. на беларускай мове.

20 лістапада 1921 г. ў нас выбіралі нібыто школьную камісію. Але яшчэ да выбараў быў ужо напісаны пратакол, так што солтысам і іншым названым асобам, прыкладам: сьвяшчэньніку, рабіну, дохтару—прышлося даць толькі дзеля формы—свае подпісы.

У камісію гэткім спосабам засталіся выбранымі: ксёндз—саратаўскі немец, аконам двара Абадоў, паляк М. і адзін з вучыцялёў.

Есьць беларуская прыказка: „Нанялі ваўка ў пастухі да авечак“.

У м. Ільлі ёсьць кухня для бедных дзяцей, але карыстаюцца з яе і гаспадарскія дзеці, затое бедным усюды бедна.

Есьць у нас у Ільлі і пошта, але там толькі ваўкоў марозіць, а не працаваць.

Старонка наша, Беларусь, бедная копэратывамі. Толькі нядаўна тут стала разьвівацца коопэрацыя. Шмат дзе коопэратывы вырасталі скора, як грыбы, і прападалі, не пасьпеўшы падняцца. Толькі цудам якімсь адзін Ільскі коопэратыў з 1917 г. устоіў да гэтых часаў. Многа перамен уладаў ён пережыў. Былі такія ўлады, што ня любілі ўраду коопэратыўнага, але самае коопэратывы не зачынялі. Пры ўсіх уладах коопэратыва зарэгістроўвалася.. Толькі ўсяму бываець канец. Дык мусіць і Ільскай коопэратыве прыдзецца разьвінуўшыся да таго, што ўжо вагонамі прывозіць тавары і адчыніла пракатны льготны пункт с.-г. машын, згінуць. Ня гледзячы на тое, што яна і польскай уладай зарэгістравана і ў 20 годзе легалізавана, польская ўлада трэбуець ад коопэратывы зноў ўсе даныя для залегалізаваньня, ў праціўным разе грозіць зачыніць коопэратыву. Але чуваць, што мясцовая улада ня хоча засьведчаваць трэбаваных папераў і статутаў. Выходзіць так, што коопэратыва астаецца бяз віны вінаватаю.

**Язэп Небарака.**

## Які-ж гэта „Зьезд Заходняй Беларусі?“

**ВЯЗЫНСКАЯ вол., Вялейскага пав.**

З № 1 аляксюковае газэты „Раніца“ ад 22 сьнежня гэтага году я даведаўся, што 11 і 12 сьнежня адбыўся ў Вільні „Зьезд прадстаўнікоў Заходняе Беларусі“. Зьдзівілі і разам вельмі пакрыўдзілі мяне пастановы гэтага зьезду. Як пішацца ў памянёнай газэце, на зьездзе былі прадстаўнікі народу ўсяе Заходняе Беларусі і выказалі сваю волю, свае пажаданьні. Але-ж я, лічучы сябе беларусам, на гэты зьезд нікога не выбіраў і нікому не даваў поўнамоцтва ад майго імя гаварыць і выносіць пастановы. Мала таго, як я даведаўся, ніводзін жыхар - беларус Вязынскае воласьці нікога не дэлегаваў на зьезд гэты ў Вільню і нічога абсолютна аб гэтым зьездзе навет ня ведаў. Яшчэ болей: беларусы Вялейскага павету таксама ад сябе нікога не выбіралі і не дэлегавалі на зьезд. З гораду Вялейкі езьдзіла на гэты зьезд у Вільню ажно 6 асоб, якіх ніхто з жыхароў павету не выбіраў, але каторым уручыў мандыты на зьезд нейкі прыезны чалавечак, дэлегаваўшы і упоўнамочыўшы іх гаварыць ад беларусаў Вялейскага павету. Асобы гэтыя першыя, ўзятыя з Вялейкі, людзі, гэтак сама знаёмыя з беларускім рухам, патрэбамі і жаданьнямі беларусаў, як нейкая дамовая жывёліна з смакам памаранцаў.

Выбачайце, паночкі! ня можна-ж гэтак зьдзекавацца над правамі народу. Хай ён будзе „хам“, мужык неадукованы,—але яго права мужычае пакіньце за ім, а ня прысвойвайце яго сабе. Калі-ж вам усё такі патрэбна яго мужычае слова, дык выслухайце-ж яго самога, праз праўдзівых прадстаўнікоў яго, а не сабраных агентамі „Краёвае Сувязі“ вырадкаў гэтага сярмяжнага народу.

У праціўным разе які-ж гэта зьезд прадстаўнікоў народу, калі народ навет аб гэтым нічога ня ведае?

Як на гэта паглядзіце вы, ўсе небеларусы, хто прачытае вышэйпісанае? Ці маюць яны права называць сябе выбранымі народам і гаварыць у Варшаве і ўсюды імем нашага народу?

## А школаў нашых усё яшчэ няма.

Ізноў-жа ў справе народнае прасьветы нашае воласьці. Нашай роднай беларускай школкі ўсё-ж так няма ў нас. Жыхары в. Суднікі, ўжо месяцы са два будзе, як падалі школьнаму інспэктару ў Вялейцы просьбу аб адчыненьні ў іх вёсцы беларускае пачатковае школы і усё-ж такі гэтая школка яшчэ й дагэтуль не адчынена. Таксама і ў вёсцы Калодчына, ня гледзячы на просьбу жыхароў,—беларуская школка у й дагэтуль не дазволена. Навошта-ж тады ўсе пекныя словы аб свабодным разьвіцьці беларускага народ пад Польшчай.

А дзе-ж нашы газэты „Беларускія Ведамасьці“ і „Беларускі Звон?“ Чаму мы, зрабіўшы падпіску, ня можам адтрымаць гэтых газэтаў? Дзе-ж тут свабода беларускага друку, аб якім вы, паны і аляксюкоўцы, цяпер так голасна крычыце?

## Аб адным двары.

**Двор Жукоўшчына, Пацаўскае вол., Слонімскага пав.**

Недалёка ад м. Дзятлава раскінуўся вялізны двор Жукоўшчына, гаспадаром якога зьяўляецца Пётра Гардзенін. Абшар двара, разам з лесам і ворнаю зямлёю займае 1.800 дзесяцін.

Двор гэты цікаўны дзеля свае гістарычнае прошласьці. Ужо самае прозьвішча гаспадара сьведчыць, што ён ня тутэйшы...

Да 1863 году гаспадаром тут быў нейкі беларускі магнат князь Корсак. Аб гэтым сьведчыць надпіс на памятніку, пісаны беларуска-польскаю моваю лацінскімі літарамі, які знаходзіцца на магілках блізка вёскі „Страла“ гэтае-ж самае воласьці. Тут-жа віднеюцца і руіны капліцы, дзе хавалася ўсё патомства Корсакаў. Самае прозьвішча Корсак—гаворыць за сябе. Корсак—беларускі магнат, князь, але пасьля розных вуніяў перарабіўся на чалавека пануючай нацыі...

Якім парадкам апыніўся сучасны гаспадар у Жукоўшчыне мне апавядала адна пані, што блізка стаіць да справаў мінуўшчыны гэтага двара. Вось што яна мне расказала:

Да 1863 году тут гаспадарыў Корсак са сваім братам. Але вось сюды дакацілася хваля паўстанскага руху з выразнымі мэтамі вызваленьня з-пад чужацкае апекі. Абодва браты Корсакі йдуць у „мяцеж“... Старэйшага ў першых баёх забілі; малодшы ўцякае ў Францыю і адтуль праз свайго даверанага распараджаецца дваром і ў далейшым; даверанны вельмі дрэнна павёў гаспадарку і праз некалькі гадоў двор збанкрутаваў. Тымчасам Корсаку не сядзіцца ў Францыі, бо даверанны перастаў высылаць грошы, а бяз іх у Францыі не пражывеш. Хоцькі-ня хоцькі трэба варочацца дамоў. Галодны, халодны даўнейшы ўладар з разьбітымі надзеямі вярнуўся на бацькаўшчыну..... Двор адданы пад казну, хлеба ані куска! Быў змушаны бядак пазычаць пуд-другі жыта ў сваіх суседзяў-сялян некалісьці падуладных яму, над якімі ў час прыгону быў і цар і Бог а цяпер? Цяпер прымушаны быў прасіць, маліць, каб не далі памёрці з голаду. У тутэйшых сялян і да гэтае пары ходзіць прыказка: «Наш Корсак мудры, раўняў даліны й кудры, а як спаткала яго ліхая доля адрокся й добрага поля».... Зямля, ўвесь двор пераходзіць пад казну, а адтуль пад

уладаньне нейкага жыда Абрама Намёта. Змучаны жыцьцём і няўдачамі, апошнія свае гады, Корсак дажываў у сваім маленькім хвальварку недалёка ад в. Пескаўцы, Жалудзкае воласьці ў Лідчыне. Пад канец свайго жыцьця зьдзяцінеў і памёр. Пахавалі яго ўсё-ж такі ў роднай Жукоўшчыне на магілках недалёка ад в. „Страла".

Праходзіць 20 гадоў. Расейцы выдаюць дэкрэт, якім забараняюць жыдом купляць і карыстацца зямлёю. На гэты час гаспадарыў у Беларусі Мураўёў. I вось ён аддае гэты двор свайму сваяку, ці можа добраму прыяцелю графу Мамразу за невялікія грошы (З гр. Мамразам гісторыя выдаецца, як бы заблытанаю. Адныя кажуць што ён сваяк Мураўёва, другія—што Мамраз—турэцкі гэнэрал. Папаў у Расею гэткім парадкам: у турэцкую вайну ён здрадзіў сваю бацькаўшчыну, перайшоўшы да расейцаў. Імпэратар Аляксандр II даў яму за гэта многа прывілеяў і Мамраз адыгрываў важныя ролі ў палітычных справах нашае старонкі).

Але так, ці йначай, Мураўёў памог Мамразу зрабіцца гаспадаром Жукоўшчыны. Дабіўшыся свае мэты ёнажаніўся. Аднак яму ня прышлося доўга гаспадарыць: хутка памёр, пакінуўшы маладую жонку ўдавою. У часе разьездаў па сьвеце, з ёю пазнаёміўся сучасны гаспадар двара Жукоўшчыны Гардзенін, расейскі палкоўнік перад гэтым; маладая пара хутка дайшла да згоды: Гардзенін прыйшоў у прымы да графіні Мамразавай. Так вось якім парадкам расейскі палкоўнік зьявляецца гаспадаром двара ў 1.800 дз. зямлі ў Беларусі. Адносіны яго да сялян ня можна назваць добрымі. Вельмі ўжо крыўдзяцца, што, кажа, навет і палена дроў трудна дастаць, а нято, што каб рэч паважнейшую выпрасіць. Перад вайною йшоў суд з ім акаліччных вёсак за сэрвітут. Правы на яго, суд сялянам вельмі і вельмі абмежаваў. Гэта быў перад вайною такі туз, што навет адвакаты баяліся стаць процi яго, бо быў надта паважаны праз вышэйшую адміністрацыю нашае Горадзеншчыны.

**М—кі.**

# Беларуская хроніка.

**Р. Зямкевіч у Вільні.**

Гэтымі днямі ў Вільню прыяжджаў з Варшавы вядомы зьбіральнік беларускіх друкаваных рэчаў грам. Зямкевіч. Нашаму супрацоўніку ўдалося бачыцца з грам. Зямкевічам і даведацца, што на руках у яго ёсьць гэткія выданні на беларускай мове, аб якіх мала хто дасюль і ведаў, як напр. першая соцыялістычная брашурка пабеларуску „Багацтво і беднасьць", выданая ў 1881 годзе ў Жэнэве.

**У Нацыянальным Камітэце.**

Прэзыдыум Віл. Белар. Нац. Камітэту апрацоўвае мэмарыял па бежанскім пытаньні.

У склад Нацыянальнага Камітэту ўвайшлі прадстаўнікі ад коопэратывы „Райніца" і ад соцыяль-дэмократычнай беларускай партыі.

Прэзыдыум аканчальна злажыўся з гэткіх асобаў: Краскоўскі (беспартыйны) старшыня К-ту, Луцкевіч (с.-д.) віцэ-старшыня, кс. А. Станкевіч (х. д.) другі віцэ-старшыня, Пракулевіч Уладзімер (с.-р.) скарбнік і Якубецкі (бесп.) сэкрэтар.

**Жаноцкая арганізацыя.**

Як мы даведаліся, ў хуткім часе мае заснавацца ў Вільні арганізацыя беларускіх кабетаў. Адпаведны статут будзе паданы на зацьвярджэньне ўладаў.

**У Музыкальна-Драматычным Гуртку.**

— Беларускі Муз.-Драматычны Гурток ладзіць у суботу 14 студня Музык.-Вокальны вечар. Solo фортэпіано, сопрано, тэнор. Танцы на залі да 4 г.

— Ладзіцца да пастаноўкі „На Куцьцю" Янкі Купалы па інсцэнізацыі Шчаснага. Малююцца адпаведныя дэкарацыі, шыкуюцца старадаўнія беларускія касьцюмы і абстаноўка.

— Ідуць рэпэтыцыі струннага аркестра пад кіраўніцтвам капэльмайстра п. Шэпэлевіча. Судзячы па рэпэртуару і выкананьню, трэба чакаць шмат цікавага ад гэтага аркестра.

# Тутэйшае жыцьцё.

**Эндэцкая агітацыя.**

„Gazeta Wileńska" паведамляе, што агітацыя эндэкаў у районе Васіlішак дайшла да недапусьцімых разьмераў. Кс. Пігічык у Вавёрках заклікаў з амбоні галасаваць за эндэцкі сьпісак, пагражаючы, што тыя, хто за гэты сьпісак ня будзе галасаваць, не адтрымаюць дараваньня грахоў.

**Каму выбары, а каму й забаўка!**

„Віл. Утро" піша, што 8-га студня ў памяшканьні магістрату арганізавалася самачынная выбарчая камісія, ў якой падавалі галасы асобы, пазбаўленыя выбарнага права. Усяго гэткіх запісак было падана 1575, з якіх за сьпісак № 1—1398 галасоў. Пасьля галасаваньня выбарчая урна была дастаўлена ў IX вакружную камісію. Гэтае галасаваньне наўрад ці будзе прызнана законным.

**Поўнае fiasco!**

Сьпісак „Краёвай Сувязі", якою кіруе Аляксюк, не адтрымаў у Ашмяншчыне і ў Камаях ніводнага мандату.

**Паварот Баімскага.**

Бышы начальнік віленскае места-вое паліцыі п. Баімскі мае гэтымі днямі ізноў вярнуцца на сваю пасаду.

**Нешчасьлівы выбаршчык.**

8 студня прыехаў з Варшавы ў Вільню на выбары п. Адвардыі Кулеша, спыніўшыся ў рэдакцыі газ. „Słowo Wil.". 10 студня раніцай Кулеша выйшаў у кухню памыцца, а ў займаным ім пакоі заставаўся другі прыезны выбаршчык Каладзейчык. Калі праз 10 мін. Кулеша вярнуўся, дык заўважыў, што прапала яго шуба й рэчы. Ня было ў пакоі й Каладзейчыка. Ён бяз сьледу зьнік. Каладзейчык паказаваў Кулешы пасьведчаньне аб тым, што бываў у паўстаньні ў Верхняй Сьлезіі.

(„В. У.").

**Малы лік галасаваўшых.**

Па ведамасьцях тутэйшых газэтаў пры выбарах у Сойм падавалі галасы далёка ня ўсе выбаршчыкі, гэтак напр.: ў 1-м районе Лідчыны з 2721 выбаршчыка галасавала толькі 1041, ў 2-м районе з 2123 галасавала толькі 678, агулам па Лідзкім (дзесятым) вокругу галасавала ня больш, як 55% выбаршчыкаў.

У месьце Вільні з 79 тысячаў выбаршчыкаў галасавала толькі 43 тысячы, або 55%.

## ПАПРАЎКА.

У № 1 (26) „Б. З." у п'есе „Сурдут і Сярмяга" зроблена абмылка: у другім шпальце на 2-й страніцы (нумару) паміж 14-м і 15-м радкамі (пасьля словаў Алесі. „Татка, ня гневайцеся") прапушчана: „Янка (*адпіхаючы Алесю—да Магды*). Хочаш—дык зараз табе пакажу!"

# Паштовая скрынка.

Беларусу-каталіку. *За* прысланыя весткі дзякуем, але зьмясьціць ня можам, бо ня ведаем Вашага прозьвішча і адрэсу.

# Віленская біржа.

Офіцыяльна.

За 11 студня 1922 г.

| | Куплена. | Пpaданa. |
|---|---|---|
| Даляры . . . . . . . . | 2790 | 2780 п. м. |
| Нямецк. маркі . . . . | 17,00 | 16.65 „ |
| 10 руб. золатам . . . | 14460 | 14385 „ |
| Царскія (100) . . . . | 380 | 350 „ |



## А б в е с т к а.

Беларускі Аддзел пры Лацьвійскім Міністэрсьцьве Прасьветы з 10 студня г. г. адчыняе ў г. Дзьвінску

**аднагодния вячэрнія вучыцельскія курсы**

для падгатоўкі вучыцялёў і вучыцеляк у беларускія пачатковыя школы.

На курсы прымаюцца асобы абодвых полаў не маладзей 17 гадоў.

Асобы, адтрымаўшыя закончаную сярэднюю адукацыю і з атэстатамі ня ніжэй 6-х клясаў сярэдняе школы, або скончыўшыя вучыцельскую сэмінарыю, прымаюцца на курсы без экзамену і ў першую чаргу. Асобы з адукацыяй ніжэй 6-х клясаў трымаюць уступны экзамэн.

Навучаньне на курсах бясплатнае; для курсантаў з провінцыі мае быць зроблены і н т э р н а т.

Просьбы з дакумэнтамі аб адукацыі і мэтрыкамі аб часе нараджэньня трэба пасылаць па адрэсе: ў Беларускі Аддзел пры Лацьвійскім Міністэрсьцье Прасьветы, г. Рыга, Мікалаеўская вуліца, № 36а, ці ў Беларускае культурна-прасьветнае Таварыства „Бацькаўшчына" ў Латгаліі, г. Дзьвінск, Віцебская вул. № 16.

Там-жа можна адтрымаць усялякія тлумачэньні аб курсах.

**Беларускі Аддзел.**





Друкарня „Віленскага Выдавецтва" Б. Клецкіна М.-Сьцяпанаўская, 23.

Рэдактар-Выдавец **ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.**